Праз адукацыю – да грамадзянскай супольнасці

Брашура 1

# Беларускія свядомасць, мова, гісторыя: на зломе стэрэатыпаў

Пад рэдакцыяй
Пшэмыслава Фенрыха, Уладзіміра Хільмановіча

Шчэцін 2001

*Project cofinanced by European Commission*

# Прадмова

**Пшэмыслаў Фенрых**: Ужо шмат гадоў Шчэцінскі Адукацыйны Цэнтр Фонду Развіцця Мясцовай Дэмакратыі супрацоўнічае з беларускай недзяржаўнай арганізацыяй “Фонд імя Льва Сапегі”. Калі ў мяне, паляка, пытаюцца па якой прычыне, што такога важнага я знаходжу ў беларусах, узнікае два адказы. Папершае, беларусы належаць да супольнасці народаў Еўропы, усяго свету. А паколькі склалася так, што іх культура і нацыянальная адметнасць пакінулі свой след у гісторыі, то значыць яны зрабілі свой унёсак у сусветную скарбонку, які з’яўляецца каштоўным для ўсіх іншых народаў. Дасціпна на гэты конт выказаўся калісці папа Ян Павал Другі: ён параўнаў супольнасць народаў з сімфанічным аркестрам. У такім аркестры патрэбныя усе інструменты, каб музыка магла прагучаць чыста і цудоўна. Калі бракуе хаця б аднаго інструмента, кампазіцыя гучыць фальшыва, з’яўляецца бяднейшай. Еўропе, у тым ліку і нам, палякам, патрэбны “гімн” беларусаў.

Ёсць і іншая прычына-праз стагоддзі беларусы і палякі, а разам з імі і іншыя народы ладзілі супольную, аб’яднаную дзяржаву: Рэч Паспалітую. Цяпер існуюць розныя погляды на гэтую мінуўшчыну, па рознаму яе ацэньваюць, не заўсёды станоўча. Але гэта быў наш супольны дом, а абавязковае права часткі гэтага дому было створана на беларускай мове. Сёння Еўропа задзіночваецца, тым самым паўтараючы шлях, якім народы Рэчы Паспалітай імкнуліся ісці колькі вякоў таму. Гэта шлях уніі народаў, дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці. Для Еўропы важны не толькі той станоўчы досвед Рэчы Паспалітай на працягу некалькіх стагоддзяў, але і канцовы вынік (заняпад дзяржавы, падзелы, небяспека страты нацыянальнай адметнасці).

Той досвед не з’яўляецца толькі польскім, ці толькі беларускім, украінскім, летувіскім-ён ёсць агульным. Калі хочам падзяліцца тым вопытам з Еўропай, мусім разам яго асэнсаваць.

“Беларускасць” неабходная для таго, каб развівацца. Беларусы павінны зразумець самі сябе, з асэнсаваннем і павагай да самых сябе мусяць удзельнічаць у агульнаеўрапейскай дыскусіі. Калі спыняемся над асобай, якая з’яўляецца найважнейшай у такой працы, ад якой найбольш залежыць-бачым перад усім настаўніка. Відавочна-завяршальнай у гэтым кірунку ёсць праца журналістаў, грамадскіх дзеячаў, дабраахвотнікаў з недзяржаўных арганізацый, палітыкаў, святароў. Але пачатковая, вырашальная роля належыць школе. Менавіта там, у штодзённай размове паміж настаўнікам і вучнем, у напружанай цяжкай рэалізацыі выхаваўчых задач вырашаецца будучыня Беларусі. У межах праекту “Праз адукацыю-да грамадзянскай супольнасці” паўстала гэтая брашура, галоўнай мэтай якой з’яўляецца абуджэнне мыслення і шчырай, паглыбленай размовы.

**Уладзімір Хільмановіч**: Становішча адукацыйнага і кваліфікацыйнага ўзроўню настаўнікаў на Беларусі дасягнула крытычнай мяжы. Складаная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне, мэтанакіраванае прыніжэнне дзяржавай важнасці гуманітарнай адукацыі і асветніцтва з'яўляюцца прычынамі заняпаду такіх навучальных галінаў, як грамадазнаўства, гісторыя, беларуская мова. Аб'ектыўныя цяжкасці не дазваляюць настаўнікам трацiць час і сродкі на пошук неабходных дапаможнікаў дзеля падвышэння свайго адукацыйнага ўзроўню. Большасць беларускіх настаўнікаў маюць недастатковы ўзровень ведаў роднай мовы, культуры, гісторыі рэлігіі. Што тычыцца навучання нормам маральнасці, духоўнасці, правоў чалавека, то яны выкладаюцца пераважна на базе савецкай сацыялістычнай школы, якая заўсёды мела матэрыялістычна-атэістычнае напаўненне. Даўно наспеў злом старых цемрашальскіх стэрэатыпаў, якія афіцыёзная навука мкнецца перанесці ў найноўшы час.

Дадзеная брашура з'яўляецца творчым плёнам трох даследнікаў з Гарадзеншчыны, сяброў "Фонду імя Льва Сапегі". Віктар Сазонаў, грамадска-культурны дзеяч, напэўна здзівіць чытача нетрадыцыйным падыходам да вывучэння беларускай мовы. У сваім артыкуле ён разглядае светапоглядавыя асновы Боскага дару-мовы, параўноўвае беларускі і расейскі менталітэт, сцвярджае важнасць захавання моўнай адметнасці. Мова-гэта найперш душа народа. Тварыць на чужой мове гэтак жа цяжка, як падмятаць падлогу сваім языком.

Кандыдат навук, вядомы рэлігіязнавец Янка Трацяк праз цытаты Святога Пісання і ўласны аналіз пераканаўча даводзіць значнасць, на ўзроўні першаступеннасці, рэлігійнага фактару ў нацыянальнай свядомасці.

Белыя плямы, чорныя дзіркі, невядомыя старонкі, забытыя імёны-так выглядаў кароткі нарыс гісторыі Беларусі на пачатку 80-х гадоў нядаўна мінулага стагоддзя. За час адлігі мы паспелі даведацца шмат праўды пра беларускую мінуўшчыну. Паспела сфармавацца і нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі. Доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч прапануе метадычную распрацоўку па яе выкладанні. Аўтар дае магчымасць параўнаць замшэлыя міфалагемы расейска-савецкай гістарыяграфіі з найноўшымі здабыткамі сучасных беларускіх гісторыкаў.

Выданне адрасавана найперш настаўнікам школаў, а таксама ўсім, хто неабыякавы да стану гуманітарнай адукацыі на Беларусі. Калісці Францішак Багушэвіч выдаваў свае кніжкі ў Пазнані і Кракаве. Сёння беларускае слова друкуецца ў Шчэціне...

Пшэмыслаў Фенрых, Уладзімір Хільмановіч

Віктар Сазонаў

# "Каб не ўмёрлі"

(Светапоглядавыя адрозненні моваў. Асаблівасці беларускага моўнага менталітэту.)

## Уступ

Кожная мова, як і кожны народ, мае свой уласны лёс. Узвышаўся народ- узвышалася і яго мова, гінула мова – знікаў народ. Такая заканамернасць прасочваецца на працягу ўсяго працэсу гістарычнага развіцця чалавецтва. Зышлі ў нябыт, услед за сваімі загінуўшымі мовамі плямёны полаўцаў і печанегаў, знікла з палітычных мапаў свету некалі магутная Прусія… Гэты спіс можна працягваць вельмі доўга, і паўсюдна акрэсліваецца адзін і той жа малюнак – гібель нацыянальнай мовы абавязкова прыводзіць спачатку да духоўнай, а пасля і фізічнай гібелі нацыі, а адраджэнне нацыі пачынаецца з адраджэння нацыянальнай мовы.

У чым жа сакрэт еднасці гістарычных лёсаў народа і яго мовы? Чаму кожны народ павінен захоўваць сваю нацыянальную мову як гарант свайго існавання? Па якіх прычынах знікненне нацыянальнай мовы прыводзіць да знікнення нацыі? Менавіта гэтыя пытанні зараз з'яўляюцца найбольш актуальнымі для Беларусі, дзе сітуацыя са станам нацыянальнай мовай дасягнула крытычнай рысы.

У той час, калі беларуская мова абвешчана дзяржаўнай, знікаюць апошнія беларускамоўныя школы. Моладзь пакідае скарбонку беларускай моўнай культуры – вёску. Дзяржаўныя структуры дэманструюць поўную непавагу да роднай мовы, культуры і застаюцца ў большасці сваёй расейскамоўнымі. Тыя, хто ад самога пачатку, яшчэ пры СССР, ставіліся з непавагай да ўсяго роднага, свайго, і нават рабілі на гэтым сваю асабістую кар’еру, і цяпер сядзяць у мяккіх уладных крэслах, з якіх глядзяць на беларускую мову як на нешта непатрэбнае, аджыўшае сваё. Мабыць гэтае янычарства ўжо ў іх крыві, бо з ахвотай яны падтрымліваюць мову расейскую, але не сваю родную. Таму актуальнасць дадзенай праблемы  на Беларусі надзвычай узрасла. Нават многія адраджэнскія структуры цалкам не разумеюць важнасці моўнага пытання і, дзеля сённяшняй папулярнасці, сярод у большасці сваёй расейскамоўнага электарату, пераходзяць на так  званае “двухмоўе”, не разумеючы пры гэтым, якую вялікую небяспеку для беларускага народа нясе страта роднай мовы.

Паказаць на канкрэтных прыкладах, чаму кожны народ павінен карыстацца роднай мовай, і якія незваротныя наступствы нясе  страта нацыянальнай мовы – галоўная задача дадзенага артыкула.

## АБАРОНЧАЯ ФУНКЦЫЯ МОВЫ

Мова – унікальны сродак зносінаў паміж людзмі. Але ставіцца да мовы толькі як да сродку зносінаў – найвялікшая памылка. Акрамя непаўторнай прыгажосці гучання моўнай палітры, унікальнасці моўных зваротаў і пабудовы сказаў, у ёй закладзена бясконцае мноства незаўважальных, на першы погляд, але вельмі важных функцыяў, вывучэнне якіх будзе прыносіць усё новыя адкрыцці і здзіўляць даследнікаў.

Напачатку возьмем дзеля прыкладу агульнавядомую ***інфармацыйную функцыю*** мовы. Немаўля, якое толькі вучыцца гаварыць, з кожным словам набывае цэлы блок інфармацыі, без якой яно не зможа арыентавацца ў жыцці. Калі бацькі сказалі яму, што ***агонь пякучы***, то гэты маленькі чалавек ужо ведае, што агонь нельга чапаць рукамі і не пашкодзіць сябе. Са словамі “агонь пякучы”, яму, на ўзроўні падсвядомасці, перадалася інфармацыя, набытая ўсімі яго продкамі, якую небяспеку нясе пякучы агонь, і як  з ім трэба абыходзіцца.

На гэтым дробным прыкладзе мы бачым, што мова нясе ў сабе ***функцыю абароны***, захоўваючы інфармацыю, якая была набытая папярэднімі пакаленнямі. Авалодаўшы мовай, чалавек набывае гэтую інфармацыю, што дазваляе яму пашыраць свае веды далей, не губляючы час на вывучэнне таго жыццёвага вопыту, праз які прайшлі яго продкі.

Зыходзячы з гэтага, можна сцвярджаць, што менавіта праз мову перадаецца  большасць ведаў пра сусвет, набытых папярэднімі пакаленнямі. Кожнае наступнае пакаленне, узбагачаючыся новымі разуменнямі тых ці іншых з'яваў, перадае нашчадкам свае ўяўленні пра гэта зноў жа праз мову.

Такім чынам, ***кожная мова нясе свайму народу пэўную, неабходную для яго інфармацыю. І інфармацыя, якую нясе адна мова,  нечым, альбо істотна, адрозніваецца ад інфармацыі, закладзенай у іншых мовах, гэтак жа, як і менталітэт аднаго народу адрозніваецца ад менталітэту іншых народаў.***

Савецкая ідэалагічная школа, якая да ўсяго несла чыста матэрыялістычны падыход, разглядала мову толькі як сродак зносінаў, а шматмоўе як перашкоду ў дачыненнях паміж людзьмі. Працэс “зліцця народаў” праходзіў выключна на расейскай нацыянальнай базе, у тым ліку і на базе расейскай мовы. Стваральнікі адзінай сацыялістычнай дзяржавы з шматмоўнага асяроддзя ўвесь час імкнуліся да аднамоўя. Першая мова, якая на іх думку павінна была

быць выціснутая расейскай, стала беларуская. Дзеля гэтага і была прыдуманая абсурдная тэорыя пра падабенства моваў.

## “Падабенства моваў”
## Моўны менталітэт

Пачаць трэба менавіта з “падабенства моваў”. Нас, беларусаў, з даўніх часоў настойліва пераконвалі ў тым, што нашая мова вельмі падобная да расейскай, і, маўляў, таму не адбудзецца анічога кепскага, калі яна паступова будзе замяняцца апошняй і ўрэшце знікне зусім. Знішчальнікі нашай самабытнасці добра разумелі, што мова - душа народа. Таму, каб знішчыць нас як народ, найперш трэба было знішчыць нашу мову.

Але ці так падобныя гэтыя дзве мовы, як нас пераконвалі вякамі?

Калі разглядаць мову толькі як сродак зносінаў, то сапраўды, усе славянскія народы могуць зразумець адзін другога на любой з славянскіх моваў. Але ці мажліва на чужой мове правільна зразумець сусвет?

Кожны народ адрозніваецца ад іншых не толькі колерам скуры альбо вачэй, ці іншымі фізічнымі адметнасцямі, а найперш сваёй ментальнасцю, сваім непаўторным, самабытным, непадобным на іншыя, разуменнем свету. Ці не ў мове закладзены код гэтага разумення?

Кожнае мінулае пакаленне нашых продкаў інфармацыйна узбагачала сваю родную мову, і гэты інфармацыйны блок застаецца ў мове назаўсёды, увесь час узбагачаючыся новымі разуменнямі. Прыклады і параўнанні расейскіх і беларускіх моўных аналагаў пакажуць, як і чым адрозніваюцца нашыя мовы ў сваім разуменні свету, і чаму кожны народ абавязкова павінен карыстацца сваёй роднай мовай.

Возьмем некалькі беларускіх слоў, перакладзем іх на расейскую мову і параўнаем, ці аднолькава ўспрымаюцца чалавечым менталітэтам канкрэтныя з'явы або падзеі, на гэтых, як сцвярджалі савецкія ідэолагі, вельмі падобных мовах.

Кожны з нас, пасля цяжкай працы, марыць адпачыць і з нецярпеннем чакае свята. ***Свята.*** Удумаемся ў гучанне гэтага слова. Першае, з чым яно атаясамляецца- гэта ***свет, святое, святы дзень, светлы…*** Народ адлюстраваў у роднай мове сваё разуменне гэтай з'явы, пакінуўшы яго нашчадкам як запавет. ***Святы дзень***, дзень у якім абавязкова павінна быць месца для малітвы, наведвання Храма ці могілкаў, годнага адпачынку, сустрэчаў са сваякамі, сябрамі і блізкімі. Унёсшы ў мову гэтае разуменне, нашыя продкі нібы хацелі паказаць, як яны разумеюць гэты дзень, якія яны ёсць, і які запавет яны пакідаюць сваім нашчадкам.

Ці гэтак жа сама мы ўспрымаем расейскамоўны аналаг слова свята - ***праздник. Праздник***, дзень ***праздный***, дзень калі адарваўшыся ад прыгоннай

працы можна на ўсю моц сваёй ухарскай шырокай душы глынуць "горкай" і пад "цыганачку" забыцца пра свой цяжкі лёс, ці наадварот, пахваліцца перад ўсім светам сваімі поспехамі, кінуўшы пры гэтым, як бы для пераканання, усё, што ёсць у кішэні музыкам…

Кожны народ адлюстраваў у адной і той жа з'яве сваё бачанне, свой падыход. ***Свята і праздник*** нібыта адно і тое, але, як мы бачым, рознае ва ўспрыманні чалавечай свядомасцю.

Розныя мы народы, і мовы нашая розныя.

Ці, напрыклад, слова ***кат.***. Уявіце сабе гэтага чалавека, ката. Перад намі паўстае цёмная постаць фізічна моцнага чалавека, які з задавальненнем катуе, альбо заўсёды гатовы катаваць сваю ахвяру. Ён вельмі агрэсіўны, штохвілінна гатовы на канфлікт і не сумняваецца ў сваёй перамозе. Гэты чалавек жорсткі не толькі са сваімі ахвярамі, але і з блізкімі яму людзьмі. Яго ўсе ведаюць і баяцца, стараюцца падтрымліваць з ім толькі добрыя адносіны, або не мець ніякіх. Яму не адважваюцца пярэчыць, нават калі той абсалютна не мае рацыі, і стараюцца не размаўляць пра яго з іншымі людзьмі, або, калі гавораць нешта за вочы, то толькі благое, з асуджэннем. ***Кат*** не хавае ад іншых чым ён займаецца, хоць людзі успрымаюць яго і ягоную дзейнасць адмоўна.

Цяпер падумаем пра гэтага чалавека на расейскай мове- ***палач***. Уявіце сабе чалавека, ***палача.*** Першае, што прыходзіць расейскамоўнаму чалавеку ў галаву- ***палач,*** гэта непрыемная, але неабходная для грамадства прафесія. Перад намі ўсплывае постаць чалавека з закрытым тварам, які трымае ў тайне свой род заняткаў і выконвае іх з халоднай крывёй. Ён вядзе двайное жыццё і са сваімі блізкімі і сябрамі бывае такі ж ласкавы і пяшчотны, як і бязлітасны са сваімі ахвярамі. ***Палач*** скрытны і маўклівы, цураецца знаёмстваў з іншымі людзьмі, у побытавым жыцці пазбягае канфліктаў і вельмі адданы свайму кіраўніцву чалавек.

Прыкладна так характарызуюць, пры апытаннях пра сваё разуменне слоў ***кат і палач***, беларускамоўныя і расейскамоўныя рэспандэнты адпаведна.

На гэтым невялікім прыкладзе мы пераконваемся ў тым, што кожная з разглядаемых моваў нясе розныя ўяўленні пра аднаго і таго ж чалавека. Беларускамоўным апытаным, акрамя гісторыкаў, ні разу не прыйшла ў галаву думка атаясамляць дзейнасць ***ката*** з прафесіяй, хоць усе пра гэта ведаюць, а расейскамоўныя аніяк не маглі пагадзіцца з тым, што ***палач*** можа не хаваць род сваіх заняткаў ад знаёмых. Постаць ката беларускамоўнымі і расейскамоўнымі людзьмі ўспрымаецца неаднолькава, а ў некаторых момантах нават супрацьлегла.

Калі ўзяць два гэтыя апісанні, без узгадвання таго, пра каго ідзе размова, то ствараецца ўражанне што гэта два розных чалавекі. У расейскай мове па сённяшні дзень ***палачом*** называюць людзей, якія з халоднай крывёй сумлен-

на выконваюць свае жудасныя абавязкі, служачы пры гэтым іншым людзям або дзяржаве. У беларускай мове ***катам*** называюць пераважна людзей, якія па уласным жаданні здзекуюцца над іншымі, нават калі тыя здзекі носяць лёгкі, або нават чыста псіхалагічны характар.

Можна зрабіць выснову, што думаючы пра адное і тое ж на розных мовах, чалавек на ўзроўні падсвядомасці ўспрымае адныя і тыя ж з'явы па рознаму, і адпаведна па рознаму да іх ставіцца, у залежнасці ад таго, на якой мове ён думае. Кожнае слова раскрывае чалавеку цэлы файл інфармацыі, якая адпавядае яму, яго народу і дадзенай тэрыторыі (пры ўмове, што чалавек думае на роднай мове). Гэта адбываецца таму, што менавіта ***родная мова прайшла на дадзенай, канкрэтнай тэрыторыі праз вякі, удасканалілася ў мінулых пакаленнях менавіта гэтага, канкрэтнага народу, і прынесла яго нашчадкам найлепшы для іх, найаптымальнейшы варыянт разумення тых ці іншых з'яваў і падзеяў.***

***Кожная мова, у ідэале, адпавядае толькі свайму народу, і кожны народ, для таго каб дасягнуць максімальна правільнага разумення свету, тых з'яваў і падзеяў, якія ў ім адбываюцца, павінен карыстацца сваёй, роднай мовай. Менавіта ў мове закладзены моўны менталітэт, які адпавядае ўнутранаму стану і светапогляду толькі свайго народа.***

Атрымаць нейкую пэўную інфармацыю можна і на іншай мове, але каб гэтая інфармацыя максімальна адпавядала набыткам продкаў, неабходна карыстацца толькі сваёй роднай мовай.

***Страта роднай мовы прыводзіць да дысбалансу і разбурэння інфармацыйнай гармоніі, якая звязвае народ з сусветам.***

***Кожная мова мае свой уласны, непаўторны, непадобны да іншых моўны менталітэт. Яна удасканальваецца самым народам, праходзіць праз вякі і даходзіць да нашчадкаў як самая багатая спадчына, што пакінулі продкі. Па духу свайму яна не падобная на іншыя мовы, мае свой уласны светапогляд і адпавядае ў сваіх моўных законах толькі таму народу, які яе ствараў і ўдасканальваў. Унутранаму стану кожнага народа можа адпавядаць толькі яго родная мова.***

## Уплыў моўнага менталітэту на мысленне чалавека

Розная мовы прымушаюць чалавека глядзець на свет са сваімі асаблівасцямі. Чалавек думае на нейкай пэўнай мове і, безумоўна, яна уносіць у мысленне чалавека свае карэктывы. Разгледзім такія важныя аспекты, як вобразнасць і сімвалізм чалавечага мыслення.

## Вобразнасць мыслення

Чалавек у сваіх думках успрымае свет вобразна. Калі ён пра нешта гаворыць альбо думае, то ў сваёй свядомасці альбо падсвядомасці бачыць вобразавы малюнак, што дазваляе яму больш яскрава успрымаць прадмет ці з'яву. Мова, на якой ён думае, уносіць свае карэктывы. Напрыклад, мы думаем па-беларуску пра ***зоркі***. Вобразава ў свядомасці ўзнікае цёплая ноч, дастаткова цёмная, але вельмі ласкавая і спакойная. Пах травы і паветра вабяць прайсціся, сустрэцца з каханай... Так у большасці вобразава ўспрынялі слова ***зоркі*** апытаныя людзі. Зусім па іншаму, яны ж, убачылі ***звёзды***. На гэты раз ноч уявілася зімнай, з адчуваннем лёгкай небяспекі і жаданнем хутчэй дацягнуцца да цёплай  хаты.

Нічога ў гэтым дзіўнага няма, таму што ночы, прыкладам, у Індыі зусім не такія як у Нарвегіі, і таму іхныя мовы будуць несці зусім іншае вобразнае ўспрыманне гэтай з'явы.

***А ў тых людзей, якія карыстаюцца не сваёй мовай, адпаведнай іх тэмпераменту і генетычнаму коду, безумоўна, вобразнасць мыслення будзе размытай, прытупленай, і не будзе адпавядаць існуючай рэчаіснасці.***

Колькі не думай пра індыйскую ноч па-нарвежску, яна ўсё адно не стане такой як у Нарвегіі. І ***зоркі*** -гэта тое самае, што і ***звёзды*** па сэнсе, але не тое самае ў вобразавым успрыманні.

## Сімвалізм мыслення

Не менш важны аспект чалавечага мыслення - сімвалізм. Чалавек успрымае свет не толькі вобразава, але і сімвалічна. І зноў, у залежнасці ад мовы, гэтае успрыманне рознае. Напрыклад, на Беларусі вясёлага жартаўніка заўсёды паважаюць і ніколі не назавуць ***блазнам.*** У Расеі такога чалавека з лёгкасцю і нават з пагардай могуць назваць ***шут.*** Чаму? Можа таму, што кожнае слова ўспрымаецца яшчэ і сімвалічна? Расейскі ***шут*** , з яго расейскім менталітэтам і ўспрыманнем свету,  пакінуў пасля сябе менавіта такое сімвалічнае ўспрыманне, зусім не такое як ***блазан.*** Ці можна ж вясёлага жартаўніка назваць ***блазнам***. А вось па расейску, ***шутом*** можна.

Гэты прыклад паказвае, што ***згубіўшы родную мову, народ губляе і ў сімвалічным мысленні дакладнасць і вастрыню, перастае адэкватна успрымаць людзей і з'явы, згодна з яго  менталітэтам.***

Не дзіва, што ў гэтых народаў няма нават цікавасці да сваёй старадаўняй сімволікі, гістарычных ведаў, разумення мінуўшчыны, сваіх культурных і духоўных каранёў. Яны, разам з вастрынёй успрымання, губляюць пачуццё гумару і філасофскае разуменне жыцця, робяцца пахмурнымі і нежыццярадаснымі.

# УПЛЫЎ МОЎНАГА МЕНТАЛІТЭТУ НА СФЕРЫ ГРАМАДСКАГА ЖЫЦЦЯ

## Адукацыя

На наступным прыкладзе разгледзім, як мова ўплывае на разуменне чалавекам свайго мейсца ў грамадстве і сваіх абавязкаў перад ім, як шляхі грамадскага развіцця залежаць ад мовы зносінаў.

Возьмем адукацыйную галіну.

Зноў выкарыстаем ужо апрабаваны раней шлях параўнання расейскіх і беларускіх словаў і таго глыбіннага зместу, які нясуць абодва варыянты. Возьмем словы ***учитель*** і ***настаўнік***. Само гучанне гэтых словаў у чалавечым успрыманні ўжо прыводзіць да думкі пра рознасць іхняга значэння, а значыць ***учитель*** і ***настаўнік*** па рознаму бачаць сваё мейсца ў грамадстве і свае абавязкі перад ім. Апытанне на гэтую тэму праводзілася выключна сярод расейскамоўных і беларускамоўных настаўнікаў і іх вучняў, і дало неверагодныя вынікі.

Расейскамоўныя ***учителя*** лічаць сваю прафесію элементам дзяржаўнай структуры. Галоўная задача – ***научить*** сваіх ***учеников*** таму матэрыялу, які закладзены ў дзяржаўнай праграме навучання, а галоўная задача ***учеников – выучить*** гэты матэрыял, максімальна набліжана да таго варыянту, які выкладаецца. Самастойныя змены ў навучальных праграмах імі пераважна не практыкуюцца. Нават самыя актыўныя з тых, каму не падабаецца праграма навучання, стараюцца ўнесці ў яе змены цэнтралізавана, праз вышэйшыя ворганы, па ўсёй краіне, і вельмі рэдка адважваюцца на падобныя змены ў сваім уласным класе.

Расейскамоўны ***учитель*** лічыць сябе толькі невялічкім звяном ў моцным ланцугу вялікай дзяржаўнай структуры навучання, адным з маналітнага настаўніцкага войска, з павагай ставіцца да сваіх калегаў і амаль заўсёды падкрэслівае іх перавагу перад вучнямі, нават калі ўпэунены, што яго калегі памыліліся. Ён перакананы, што менавіта павага з боку ***учеников*** да ***учителя*** і дысцыпліна, і ёсць галоўныя элементы ў засваенні вучнямі праграмы.

***Учитель*** вельмі балюча ўспрымае калі даказваецца яго памылка і лічыць, што тыя, каго ён ***учит***, не маюць права аспрэчваць яго высноваў. Вельмі важнымі ў працэсе навучання ён лічыць уменне правільна выстаўляць ***оценки***, ***оценивая*** такім чынам ***знания ученика***, педагагічна заніжаць ці завышаць іх, каб падцягнуць узровень ***успеваемости***. Пры гэтым ён упэўнены, што трэба жорстка караць гультаёў і парушальнікаў дасцыпліны.

Адной з дзяржаўных, найважнейшых для сябе задачаў, ***учитель*** лічыць пошук разумнейшых вучняў, якія некалі сваім розумам і здольнасцямі дапамогуць зрабіць лепшым жыццё яго дзяржавы і ўсяго чалавецтва. З імі трэба працаваць, дапамагаць і адсейваць ад тых, каму наканавана зарабляць сабе на хлеб фізічнай працай.

Расейскамоўны ***учитель*** заўсёды лічыць сябе інтэлігентам і праводзіць рэзкую мяжу паміж разумнымі і не вельмі, на яго думку, вучнямі, не сумняваючыся пры гэтым, што правільна ***оценил*** апошніх. Выстаўляючы ***оценку,*** ён ***оценивает*** веды вучняў і вельмі хоча праз суровасць і прынцыповасць даказаць сваю заклапочанасць будучыняй сваіх ***учеников***.

Такое ўяўленне пра сябе і свае прафесійныя абавязкі далі пры апытанні расейскамоўныя настаўнікі і іх вучні.

Зусім па іншаму сябе і свае абавязкі ахарактарызавалі беларускамоўныя рэспандэнты. Яны лічаць, што галоўная задача ***вучня - вучыцца***, а ***настаўніка - настаўляць*** таго на найбольш аптымальны шлях навучання. ***Настаўнік*** бачыць сваю працу як асабісты творчы працэс, а дзяржаўную праграму навучання як дапаможнік у гэтым. Адказнасць за вынікі навучання ён адчувае ў першую чаргу перад сабой, сваім сумленнем і лёсамі сваіх вучняў. Па гэтай прычыне ***настаўнік*** заўсёды здольны на творчыя эксперыменты, змены ў праграме без узгаднення з кіраўніцтвам. Сваю прафесію ён разглядае ў першую чаргу як мажлівасць зарабляць на жыццё і даводзіць свае погляды да пэўнай аўдыторыі, не ўзвышае сваю працу над іншымі. Пры усім гэтым, ***настаўнік*** ганарыцца сваёй працай і яе важнасцю, трымаецца варта, з павагай да сябе і іншых, але як мага прасцей.

Сваіх калегаў ён разглядае markednabakova, аддаючы перавагу не пасадзе, а асабістым якасцям кожнага з іх. Ніколі не лічыць сваім абавязкам бараніць пазіцыю апошніх перад вучнямі, калі калегі, на яго думку, памыляюцца.

***Настаўнік*** не баіцца перад аўдыторыяй прызнаць і свае памылкі, на першае мейсца ў вучнях ставіць не пакорлівую паслухмянасць, а жывую зацікаўленасць навучальным працэсам, актыўны ўдзел у спрэчках, здольнасць да самастойнага пошуку ісціны.

Погляд на ***адзнакі*** ў ***настаўніка*** таксама адрозніваецца ад поглядаў ***учителя***. Беларускамоўны настаўнік выказваецца супраць маніпуляцый адзнакамі, дзеля чаго б гэта не рабілася. Адзнакам не надаецца такое важнае значэнне, а нездавальняючыя ставяцца вельмі рэдка. Падзел вучняў на інтэлектуалаў і не, можна сказаць, адсутнічае. ***Настаўнік*** лічыць, што ў кожным з іх ён павінен знайсці нешта сваё, адметнае і вельмі часта гэтае нешта з'яўляецца больш важным, чым узровень ведаў школьнай праграмы.

Не існуе і такой рэзкай мяжы паміж інтэлектуальнай і фізічнай працай, ўзвышэння адной над другой.

На дадзеным прыкладзе відаць, як па рознаму бачаць сваю місію, свае абавязкі, і сваю ролю ў грамадстве настаўнікі, у залежнасці ад таго, якой мовай яны карыстаюцца.

Можна канстатаваць, што такі найважнейшы працэс, як школьнае навучанне (як і многія іншыя працэсы у жыцці грамадства), у значнай ступені залежыць ад той мовы, на якой ён адбываецца. Раней мы ўжо прыйшлі да высно-

вы, што ***менталітэту кожнага народа адпавядае толькі яго нацыянальная мова.*** Гэта значыць, што адукацыйны працэс на чужой мове, дзе расейская мова накладваецца на беларускі менталітэт, не можа прывесці да патрэбных вынікаў і будзе адмоўна адбівацца на светапоглядзе і псіхічным стане вучняў. Калі для беларускіх школьнікаў вядзецца выкладанне на расейскай мове, то можна з упэўненасцю сцвярджаць пра іх скалечаны ў падсвядомасці светапогляд, выправіць які будзе надзвычай цяжка.

***Толькі ў тым выпадку, калі чалавек дасканала валодае роднай мовай, якая адпавядае яго менталітэту, унутранаму стану, існуючай рэчаіснасці гэтай тэрытарыяльнай адзінкі, яго гістарычнай і генетычнай памяці, валоданне іншымі мовамі узбагачае яго, дае мажлівасць глянуць на сусвет з іншых пазіцый. Калі чужой мовай проста замяняюць яго родную, гэта прыводзіць да неадпаведнасці яго поглядаў існуючай рэчаіснасці, разбурае здольнасць правільнасці аналізу, цалкам знішчае інтуіцыю.***

## Права

Іншай, не менш важнай сферай грамадскага жыцця з'яўляецца права. Цывілізаваны свет законапаслухмянасць чалавека лічыць найвышэйшай праявай яго грамадзянскай адказнасці. Таму права мусіць быць бездакорным, справядлівым, адпавядаць светапогляду дадзенага народа, яго менталітэту, бо ад гэтага залежаць лёсы і нават жыцці людзей. Права павінна ўлічваць светапогляд, лад жыцця і традыцыі народа.

Ці ўплывае моўны менталітэт на законатворчую дзейнасць? Ці можна ствараць законы для аднаго народа на мове іншага? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.

Звернемся да аднаго яскравага прыкладу. Яшчэ за сталінскімі часамі, у невялічкай беларускай вёсцы, чэкісты арыштоўвалі селяніна. Вакол іх, цесным колам, сабраліся аднавяскоўцы сяляніна, яго сваякі і дапытваліся, за што забіраюць чалавека. Нарэшце адзін афіцэр патлумачыў:

– Этот человек преступник. Он преступил закон и понесёт суровое наказание. Советская власть запрещает иметь в личном пользовании лошадь, а у него она была.

– Ды які ж ён злачынец, - угаворвалі чэкістаў вяскоўцы. - Што тут благога- мець каня? Каму ж ён гэтым нашкодзіў, якое зрабіў зло?

– Я вам русским языком говорю, - раздражнёна крычаў афіцэр. - Он преступил закон, а вы ни черта не понимаете. Тупые вы какие-то, белорусы.

Так і не зразумеў расейскамоўны чыноўнік, што размаўлялі яны на розных мовах, і таму так і не змаглі зразумець адзін другога.

Мы ўжо разглядалі той працэс, калі кожнае слова нясе сабой цэлы файл інфармацыі, які імгненна раскрываецца ў падсвядомасьці і ўплывае на ўспрыманне чалавекам той ці іншай з'явы. Якую інфармацыю атрымлівае

законатворца, ствараючы законы, калі думае па беларуску ***злачынец,*** і ў перакладзе на расейскую мову ***преступник***.

Гучанне гэтых словаў гаворыць само па сабе. ***Преступник*** – чалавек, які ***преступил*** закон, незалежна ад таго, добры той закон ці кепскі, успрымаем мы яго ці не. Слова ***злачынец*** гаворыць нам пра тое, што гэта чалавек, які робіць, альбо ўжо зрабіў ***зло***, нават калі ў заканадаўстве гэтае дзеянне не будзе лічыцца парушэннем закону.

Селянін не меў права трымаць ва ўласнай гаспадарцы каня. Заканадаўчая база ў Савецкім Саюзе рабілася на расейскай мове. Расейскі моўны менталітэт гаворыць пра тое, што селянін, які адважыўся выгадаваць каня, ***преступил*** закон, і таму з'яўляецца ***преступником***. Ступень вызначэння віны гэтага чалавека мае ў расейскай мове вельмі шырокі дыяпазон, ляжыць у межах разумення слова ***преступник***, і залежыць ужо ад розных ускосных фактараў, такіх, як палітычная сітуацыя ў краіне, ці стратэгічная мэтазгоднасць, ці што- небудзь іншае. Сам факт, што селянін меў каня, ужо адыходзіць на другі план. На першае мейсца выходзіць наяўнасць парушэння закону.

Селянін стаў ***преступнком,*** і расейскі моўны менталітэт дазваляе караць ***преступника***, за парушэнне закону з жорсткасцю, якая ляжыць у дыяпазоне ад мінімума да максімума. Кажучы прасцей, селянін, за тое, што меў каня і такім чынам парушыў закон, мог атрымаць ад суддзі як проста нараканне, так і найвышэйшае пакаранне, у залежнасці ад таго, што выгадна дзяржаўнай уладзе. Гэта дазваляе тое разуменне слова ***преступник***, якое закладзена ў расейскай мове і таму на гэтай мове законатворца мог стварыць такі закон.

Беларускі моўны менталітэт гаворыць пра ***злачынца***, як пра зрабіўшага ***зло*** чалавека. Селянін, які меў каня, аніяк не мог разглядацца як ***злачынец***, бо тое, што чалавек займеў каня, нельга назваць ***злом***. Такое разуменне не дапускаюць беларускія моўныя законы і беларускаму законатворцу проста не прыйшло б ў галаву назваць гэтага селяніна ***злачынцам.*** Найбольш яго можна акрэсліць парушальнікам закону, што адпаведна і вызначае ступень яго віны і моц пакарання. Беларускі моўны менталітэт прымушае на першае мейсца ставіць наяўнасць альбо адсутнасць у дзеяннях селяніна ***зла***, а не сам факт парушэння закону, і адпаведна прыводзіць да думкі, што падобны закон, калі ён існуе, не адпавядае здароваму сэнсу, традыцыям гэтага народа, яго разуменню свету.

Можна сцвярджаць, што на беларускай мове, падобны закон не мог узнікнуць. Гэтага не дазваляе тое разуменне слова ***злачынец***, якое закладзена ў беларускай мове.

Законатворцы Беларусі і сёння карыстаюцца чужой мовай, ствараюць законы па-расейску і толькі пасля перакладаюць іх на беларускую мову. Якія пачварныя вынікі могуць з гэтага атрымацца, мы бачылі на згаданым прыкладзе. Поўная неадпаведнасць светапогляду, ладу жыцця, менталітэту,

тэмпераменту і традыцыям гэтага народу! Можа гэта будуць і добрыя законы, але не для гэтай краіны.

Можна сцвярджаць, што згубіўшы родную мову, народ губляе здольнасць нават стварыць для самога сябе справядлівае права і змушаны жыць у прававым дысбалансе.

Няма на свеце лепшых і горшых моваў, ёсць мова родная і мовы іншыя.

У мове закладзены светапогляд, які ўплывае на ўсе сферы грамадскага жыцця. Самае галоўнае тое, што кожнаму народу адпавядае толькі яго мова. Уявіце сабе беларускага селяніна, якому гавораць пра тое, што нельга мець у гаспадарцы каня. Ён проста ў гэта не паверыць. Гэта не можа змясціцца ў яго свядомасці. А судзілі такіх людзей па законах, створаных на расейскай мове. Ніяк гэтыя людзі не маглі зразумець, за што іх так жорстка караюць.

***Толькі карыстаючыся сваёй роднай мовай, народ можа гарманічна ўпісаць новыя разуменні ў багацейшы досвед, пакінуты яму продкамі, не паламаўшы еднасці гэтых узаемаадносінаў.***

## Моўны код разумення сусвету

Вышэй мы разглядалі ў якасці прыкладаў непадобныя па гучанні расейскія і беларускія словы і пераканаліся ў тым, што яны маюць рознае значэнне і нясуць неаднолькавую па свайму светапоглядзе інфармацыю. Для таго, каб дасканала зразумець, што ў кожнай мове ёсць свая душа, свой непаўторны, непадобны на іншыя ***код разумення сусвету***, у якім закадаваная неабходная, менавіта для гэтага народа, інфармацыя, якая дапаможа яму не толькі выжыць, але і зрабіць сваё жыццё лепшым, патрэбна абавязкова прааналізаваць прыклад з аднолькавымі па гучанні словамі.

Вось слова, якое, на першы погляд, у абодвух варыянтах не мае аніякага адрознення - ***зіма. Зима*** па-расейску, ***зіма*** па-беларуску. Але давайце глянем, якія эпітэты надаў расейскі народ сваёй зіме. ***Зимушка-зима, зима-красавица, матушка-зима, зима-колдунья, кудесница, долгожданная, хранительница*** і г. д. У беларускай мове, ні ў фальклёры, ні ў літаратурнай мове, ні ў гутаркавай, падобныя эпітэты да слова ***зіма*** не ўжываюцца. Наадварот, тут мы сустракаем зусім адваротнае ўспрыманне. ***Зіма халодная, нягодная, сварлівая, праклятая, нікому не патрэбная, злая*** і т. п. Відавочна, што беларускамоўныя і расейскамоўныя людзі, калі згадваюць пра зіму, гавораць не пра адно і тое ж, а пра дзве зусім розныя з'явы. Гэта і зразумела: мову на працягу доўгіх вякоў ствараў і ўдасканальваў сам народ. У тыя часы, калі ў расейскую мову закладвалася інфармацыйнае разуменне слова ***зима***, расейскі народ чакаў зіму як збавіцеля. Мала які вораг мог прыйсці ўзімку праз іх заснежаныя лясы. Гэта значыць, што можна было спакойна перавесці дух, і пражыць гэты час без страху. Вось і назвалі зіму ў расейскай мове ***желан-***

***ной***. Багатыя на жыўнасць лясы заўсёды маглі пракарміць, а зімой па снезе і звера лягчэй высачыць. Сам па сабе народ фізічна ўстойлівы да марозаў, непатрабавальны. Зіма цалкам адпавядала патрэбам і светапогляду расейскага чалавека, таму і зафіксаваў ён у сваёй мове гэтую з'яву так, а не інакш. Але самае галоўнае- гэта ***існуючая рэчаіснасць.*** Народ удасканальваў сваю мову пад уплывам існуючай рэчаіснасці, адлюстроўваў у ёй сусвет такім, якім сам яго бачыў.

Ці мог беларус, які жыў пры халодных, вільготных і сырых балтыйскіх вятрах (існуючая рэчаіснасць, якой не было на расейскіх землях), адлюстраваць зіму ў сваёй мове так, як расеец. Безумоўна, не. На беларускай зямлі, дзе з даўніх часоў перакрыжоўваліся інтарэсы ўсходу і захаду, поўначы і поўдня, зіма не магла ратаваць людзей і ад вайны. Наадварот, летам можна было адсядзецца ў балотах, якіх было мноства. Зімой яны замярзалі і паратунку шукаць не было дзе. Беларускі народ, сам па сабе працавіты, руплівы, не баяўся цяжкай летняй працы, заўсёды імкнуўся жыць багацей, лепш. Не чакаў гэты народ зімы як збавіцеля і адлюстраваў яе ў сваёй мове адпаведна.

На вёсках па сённяшні дзень старыя людзі гавораць:

- Добра ў нас, прыгожа, хараша, але каб зімы не было, было б яшчэ лепш.

Калі мы звернемся да гісторыі згаданых двух народаў, то ўбачым, што большасць лёсаносных расейскіх перамог адбылося менавіта зімой. Войскі Напалеона без бою пакінулі Маскву. Гэтую бітву, як і многія іншыя, Расеі дапамагла выйграць ***зима***.

Родная мова падсвядома падказвае, што, як і калі трэба рабіць, чужынская мова заўсёды ўводзіць у зман, даючы неадпаведную інфармацыю.

Пададзены прыклад паказвае, што беларускамоўны чалавек успрымае зіму зусім не так, як расейскамоўны, хоць па гучанні гэтыя словы ідэнтычныя. Да адной і той жа з'явы ў іх розныя адносіны, рознае стаўленне. І кожнаму з гэтых народаў яго мова дае правільнае тлумачэнне, правільнае толькі для свайго народа і памылковае для іншых. Тым самым мова засцерагае свой народ ад асіміляцыі, змешвання і знікнення.

Хто можа сказаць, як неабходна дзейнічаць чалавеку, які вырас у спрыяльных добрых умовах, быў дагледжаны і абаронены ад непрыемнасцяў бацькамі, і які раптам трапіў у экстрэмальную сітуацыю? Толькі яго родная мова, у якой закладзены ***код разумення свету***, дзе і змяшчаюцца правільныя адказы. Чужынская мова ашукае яго.

***Кожная мова мае свой уласны, непаўторны, непадобны на іншыя код разумення свету. Па духу свайму яна не падобная на іншыя мовы і адпавядае цалкам і беспамылкова толькі свайму народу. Светапогляду кожнага народа адпавядае толькі яго родная мова, якая нясе яму адпаведны код разумення свету.***

ную асобу”[27]. Дар гэты рэалізуецца ў стваральнай працы нацыі, у яе прызначэнні, альбо ў пошуках “таго адзінага, што Бог думае пра нацыю”.

“Кожны народ пакліканы для таго, каб прыняць сваю прыродную і гістарычную “дадзенасць” і духоўна апрацаваць яе, перамагчы, адухатварыць яе па-свойму, будучы ў сваім, своеасаблівым нацыянальна-творчым акце. Гэта яго неад’емнае, натуральнае, святое права, і ў той жа час гэта яго гістарычны, агульначалавечы, і што самае галоўнае, рэлігійны абавязак. Ён не мае духоўнага права адмовіцца ад гэтага абавязку і ад гэтага паклікання. А раз адмовіўшыся, – ён духоўна разложыцца і загіне: ён гістарычна зыйдзе з вобліку зямлі”, – пісаў І.Ільін[28]. Дзякуючы рэлігійнаму сэнсу свайго абавязку паўстала некалі Масковія (“Масква – Трэці Рым...”); В.Ластоўскі заўважыў: “Руская” вера была галоўнай спружынай, якая паслужыла да ўтварэньня Расійскай імперыі”[29], адрадзілася Польшча, дзе нацыянальная ідэя непарыўна з рэлігійнай (Польшча, як фарпост Рыма-Каталіцтва на сумежжы Усходу і Захаду) і іншыя народы і дзяржавы. “Не было ў гісторыі выпадку, каб утварыў трывалую дзяржаву народ, каторы па сваёй істоце з’яўляецца нечым пераходным, неакрэсленым, у каторага няма выразных рысак, якія адрозніваюць яго ад другіх, падобных яму народаў”[30].

Праваслаўны святар, пратаірэй У.Свешнікаў у антынацыянальнай дзейнасці бачыць прычыны крызісу і дэградацыі ў палітычным, эканамічным, і наогул, грамадскім жыцці. Яшчэ большую пагрозу выклікае антынацыяналізм у духоўна-маральным жыцці народу і дзяржавы, бо адсутнасць рэлігійна-хрысціянскіх асноў нацыянальнага досведу прыводзіць да пакланення пустому і пачварнаму характару масавай культуры, да непаразумення сапраўднай каштоўнасці чалавечай асобы і чалавечага жыцця, да бессэнсоўнасці, бездухоў-насці і амаральнасці, што з’яўляецца прычынай розных праяў зла[31].

Адмаўляць народу ў яго законным праве на сваю мову, гісторыю, культуру і нават “адмаўленне нацыяналізму ёсць у канчатковым выніку адмаўленне рэлігійнага сэнсу зямных (казанні хрысціянства, царкоўнае будаўніцтва, пазнанне слова Божага) каштоўнасцей”[32].

---

[27] Клепинин Н.А. Мысли о религиозном смысле национализма// Путь. – М.: Информ-Прогресс, 1992. – Кн.1. – С.705.
[28] Ильин И.А. Путь духовного обновления// Ильин И.А. Путь к очевидности. – М.: Республика, 1993. – С.232-233.
[29] Ластоўскі Вацлаў. Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаваў// Выбраныя творы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 397.
[30] Ластоўскі Вацлаў. Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаваў// Выбраныя творы. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. – С. 396].
[31] Свешников Владислав. Заметки о национализме подлинном и мнимом. – М.: ТОО Рарогь, 1995. – 124 с..
[32] Клепинин Н.А. Мысли о религиозном смысле национализма// Путь. – М.: Информ-Прогресс, 1992. – Кн.1. – С.701.

“І ва ўсіх гэтых выпадках можна ўбачыць нейкі маральны дэфект, – пісаў пр. У.Свешнікаў. – Людзі антынацыянальных поглядаў з нагоды гэтага дэфекта вольна ці міжволі, свядома ці несвядома з’яўляюцца разбуральнікамі, нават тады, калі яны шчыра перапоўнены імкненнямі да стваральнай працы. Але такая праца немагчыма там, дзе ігнаруецца адзін з важнейшых стваральных прынцыпаў”[33].

Праблема суадносін рэлігійнага (хрысціянскага) фактару і нацыянальнай ідэі не застаецца па-за ўвагай сучасных беларускіх даследнікаў. А.Анціпенка ідэю нацыі разглядае “у якасці прыступкі на шляху да спасціжэння больш глыбокай ідэі хрысціянскай сумоўнасці”.[34] З.Шыбека адзначае, што “менавіта нацыянальная самасвядомасць дае людзям галоўнае – духоўную моц і надзею на ўратаванне”[35], па сутнасці, тое, што дае хрысціянская ідэя. У цэнтры публікацый У.Конана хрысціянства выступае як дамінуючы фактар развіцця беларускай культуры[36]. Звяртае ўвагу даследнік і на такую з'яву, як падмена культурна-духоўных каштоўнасцей народу: “Палітычнае і культуртрэгерскае месіянства вялікіх імперый і звышдзяржаў ёсць ідэя антыхрысціянская, падмена духоўнага нябеснага царства зямной карыкатурай на яго”[37]. Кожны народ павінен шукаць свой шлях, сваё пакліканне, сваё прызначэнне: “...Народ, які забываецца аб сваім служэнні рызыкуе быць рабом, які закапаў у зямлю свой талент[38]”. Ні асоба, ні тым больш нацыя не маюць права на гэта. Яны абавязаны пусціць свой талент “у рост агульначалавечай духоўнасці”. – адзначае У.Конан [39].

Такім чынам, рэлігія з'яўляецца істотным фактарам і своеасаблівым трансфарматарам этнічных і нацыянальных культурных каштоўнасцей. Нацыянальная культура, якая прасякнута хрысціянскай царкоўнай свядомасцю і зыходзяць ад яе, не супярэчыць агульначалавечым нормам рэлігійнага ўсеадзінства, з’яўляецца натхняючым і творчым сродкам у праяўленні індывідуальных каштоўнасцей кожнага этнасу, кожнай нацыі, пошукаў свайго рэлігійнага і гістарычнага абавязку, боскага прызначэння і свайго сэнсу ў сусвеце і тым самым апраўдвае сваё існаванне ў кантэксце сусветнай культуры.

---

[33] Свешников Владислав. Заметки о национализме подлинном и мнимом. – М.: ТОО Рарогъ, 1995. – 124. – с.15.

[34] Анціпенка А. Еўрапейскасць и хрысціянская ідэя беларускасці// Беларусіка-Albaruthenica. – Кн. 2. – Мн.: 1993. – С.259-262.

[35] Шыбека Захар. Спробы вызначэння структуры і эвалюцыі нацыянальнай свядомасці// Беларусіка-Albaruthenica. – Кн. 2. – Мн.: 1993. – С.37-41.

[36] Конон В. Вера и нация: христианство в судьбе белорусов// Неман. – 1994. – № 5. – 156-164.

[37] Конон В. О белорусской идее// Неман. – 1994. – № 5. – с.128.

[38] Федотов П. О святости, интеллигенции и большевизме: Избр. ст. – СПб, 1994.– С.33-34.

[39] Конон В. О белорусской идее// Неман. – 1994. – № 5. – с.128.

# 3

Праблема рэлігійнага фактару і нацыянальнай свядомасці, развіцця нацыянальнай культуры паводле хрысціянскай ідэалогіі, перш-наперш, павінна быць праблемай духавенства. Але, калі ўлічыць той гістарычны факт, што духавенства ў Беларусі на працягу некалькі стагоддзяў было прадстаўлена дзвюма асноўнымі хрысціянскімі канфесіямі, разыходжанні якіх не абмяжоўваліся толькі сімваламі веры і вялі ў глыбіню міжпалітычных (дзяржаўных), міжкультурных і міжэтнічных адносінаў, то становіцца зразумелым, наколькі гэтыя праблемы былі неадназначнымі і супярэчлівымі. Звернемся да некаторых фактаў, якія характарызуюць сутнасць дзяржаўнай і канфесійнай палітыкі XIX-першай паловы XX стст.

Вядомы "истинно русский" дзеяч А.Мілавідаў сцвярджаў: "што нідзе так палітыка арганічна не звязана з рэлігіяй, як у "Северо-Западном" краі, дзе "праваслаўны" і "католік" вызначэнне не толькі рэлігійнае, але і нацыянальнае і палітычнае, а паняцце расійскі і праваслаўны, рыма-католік і паляк – сінонімы[40].

Канфесійна-нацыянальнаму падзелу і супрацьстаянню спрыяў традыцыйны падыход дзяржаўнай ідэалогіі ў адносінах як да "Северо-Западноого" края з аднаго боку, так і да "крэсув всходніх" з другога. Характэрнымі прынцыпамі расейскай палітыкі ў Беларусі былі: самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць. Як гэта трыяда бачылася з беларускага пункту гледжання, вельмі трапна заўважыў І. Касяк: "Самадзяржаўе увасабляў цар, які быў сымбалем акупанта для "задзіночаных" ім народаў. Праваслаўе мела насіць казённая расійская царква, ставячы фактычна дадатак да органаў агульнай адміністрацыі. Народнасцей была расійская, у якую беларусы павінны былі ўлівацца "як ручаі ў вадно мора" і дэнацыялізавацца"[41].

Іларыён Свянціцкі (культурны дзеяч, філосаф, мававед) на гэтыя праблемы глянуў з іншага боку: "Польская шавіністычная група ўнесла ў згаданую формулу толькі невялікія змены: замест самадзяржаўя яна паставіла ўсяпольскую ідэю, замест праваслаўя – каталіцтва…"[42]. Надзейным інструментам, у дасягненні сваіх палітычных мэтаў, як адны, так і другія, выкарыстоўвалі духавенства. Калі ўлічыць усе гэтыя моманты, то становіцца зразумелым, чаму так глыбока запалі ў свядомасць "тутэйшых" такія паняцці як "руская вера" і "польская вера". Ва ўсякім разе, месца для "беларускай веры" (беларускага духавенства – праваслаўнага і каталіцкага, беларускіх рэлігійных святаў), у адзінстве і шматвобразнасці хрысціянскай царквы, было

[40] Миловидов А. Исторические основылатино-польской политики в Северо-Заподном крае. – Вилно. – С. 3.
[41] Касяк І. З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага народу. – Нью-Йорк, 1956. – С.35.
[42] Цыт. па Ф.Турук. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов. – Минск, 1921. – -- С.24.

занята бліжнімі, братамі па веры, якія між сабою і вялі “разборкі” за гэта месца, толькі ужо для сваёй польскай ці “истинно русской” веры. І ў такім этнаканфесійным супрацьстаянні бачыў народ не столькі хрысціянскую ідэю ўратавання, колькі дзяржаўна-палітычную ідэалогію. А ў цэлым, такі падыход кампраметаваў хрысціянства, быў тормазам у пашырэнні і каталіцтва, і праваслаўя, спрыяў узнікненню розных пратэстанцкіх і антыхрысціянскіх сектаў.

У першай палове XX ст. заяўляе пра сябе беларускае духавенства. Пра яго цяжка сказаць штосьці як аб адзінай цэласнай структуры. Было яно падзелена па канфесійным прынцыпе, гэта значыць, згодна прыналежнасці да дзвюх розных ідэалогій і культур, што значна ўплывала на фармаванне іх светапогляду, менталітэту, адносін да праблемаў гістарычна-культурнага развіцця, рэлігійна-нацыянальных праблемаў – усё гэта рабіла стракатай па форме і змесце іх дзейнасць. Але, з другога боку, беларускаму духавенству былі ўласцівы такія якасці, як сваё разуменне апостальскай дзейнасці, свой погляд на этнаканфесійныя праблемы, вызначэнне свайго месца і ролі ў гісторыі, усведамленне і прыналежнасць да свайго народа і, што сама галоўнае, яно было аб’яднана вакол адной ідэі – ідэі служэння Богу і Бацькаўшчыне[43].

[43] Трацяк Янка. Беларускае духавенства ў першай палове XX ст.// Bialoruskie Zeszyty Historyczne. – 1999. – № 12. – С. 59-79; Яго ж: Беларускае духавенства (пач XX ст. – 1930-я гады)// Беларускі гістарычны часопіс. – 1999. – № 2. – С. 41-48.

Аляксандар Краўцэвіч

# Ключавыя праблемы выкладання гісторыі Беларусі

(метадычная распрацоўка для настаўнікаў і выкладнікаў гісторыі)

## Уступ

На сённяшні дзень **асноўнай праблемай выкладання гісторыі Беларусі** ва ўсёй сістэме адукацыі **з'яўляецца супярэчнасць паміж старой савецкай канцэпцыяй і сучасным узроўнем навуковых даследаванняў гісторыі краіны.** Праблема гэтая дадаткова ўскладняецца па прычыне парушэння ўзаемасувязі паміж акадэмічнай навукай і сістэмай грамадскай асветы.

Выканаўчая ўлада з палітычных прычынаў свядома адлучае прафесійных гісторыкаў ад уплыву на сістэму адукацыі. Пасля 1995 г. адбыўся паварот дзяржаўнай улады да рэанімацыі (а, па сутнасці, імітацыі) савецкай мадэлі грамадства, што выклікала між іншым вяртанне да старой савецкай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Знакавым момантам у гэтай палітыцы стала галосная справа забароны Лукашэнкам новых падручнікаў па гісторыі краіны ў 1995 г.

Забарона падручнікаў, аднаўленне цэнзуры ў дзяржаўных навуковых выданнях, выдавецтвах і сродках масавай інфармацыі, кантроль над педагагічнай дзейнасцю гісторыкаў-навукоўцаў і г.д. выклікалі парыў сувязі паміж акадэмічнай (прафесійнай) навукай і дзяржаўнай сістэмай адукацыі, што вельмі негатыўна адбіваецца на агульным стане і ўзроўні гістарычнай асветы грамадства. Прафесыйныя гісторыкі (не блытаць з гісторыкамі-прапагандыстамі на службе ўладаў) пішуць адно, а выкладнікі вучаць дзяцей зусім іншаму.

Гісторыкі часткова пераадольваюць названы разрыў не толькі традыцыйнымі метадамі – выданнем сваіх навуковых працаў, але яшчэ праз папулярныя публікацыі ў недзяржаўных выдавецтвах і сродках масавай інфармацыі, публічнымі выступамі, дзейнасцю ў т. зв. трэцім сектары і г.д.

Ключавымі праблемамі, ад вырашэння якіх залежыць агульнае разуменне хады гістарычнага працэсу на Беларусі з'яўляюцца наступныя тэмы:

1. **Працэс утварэння беларускага народу (этнагенез беларусаў)**
2. **Гісторыя Полацкага і Тураўскага княстваў**
3. **Вялікае Княства Літоўскае ў гісторыі Беларусі**
4. **Уключэнне Беларусі ў склад Расейскай імперыі**

5. **Беларуская Народная Рэспубліка і БССР**
6. **Другая святовая вайна на Беларусі**

Новыя навуковыя даследаванні гэтых тэмаў прывялі спецыялістаў да зменаў найперш іх ацэнак, а следам і да змены агульнага ўяўлення пра гісторыю краіны.

## Тэма 1. **Этнагенез беларусаў**

1.1. Стэрэатыпы савецка-расейскай гістарыяграфіі:

*Беларускі народ утварыўся ў выніку распаду адзінай рускай народнасці, якая сфармавалася ў эпоху Кіеўскай Русі г.зн. у 10-12 стст. Палітычнае раздрабленне Кіеўскай дзяржавы прывяло да яе аслаблення і распаду пад націскам заваёўнікаў – мангола-татараў і літоўскіх феадалаў. Апошнія стварылі ВКЛ і захапілі заходнія землі Русі, на якіх на працягу некалькіх стагоддзяў (ад 14 да 16-17 стст.) сфармаваліся этнічныя асаблівасці новага народу – беларускага. Адначасова адбывалася фармаванне вялікарускага і украінскага народаў.*

*У складзе ВКЛ беларусы падвяргаліся эканамічнаму, нацыянальнаму і культурна-рэлігійнаму прыгнёту, таму бесперапынна змагаліся за ўз'яднанне з вялікім рускім народам. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. адбылося ўз'яднанне беларусаў з рускімі. Беларускі народ атрымаў магчымасць паўнацэннага нацыянальнага развіцця, а пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі стварыў уласную дзяржаўнасць – БССР.*

*Можна заўважыць, што ў афіцыйнай канцэпцыі беларусы прызнаюцца самастойным народам, аднак на практыцы гэтая тэза ліквідавалася прапагандай надзвычайнай блізкасці двух брацкіх народаў, якія мусяць зліцца ў адно цэлае.*

1.2. Навуковыя распрацоўкі апошняга дзесяцігоддзя:

Этнагенез беларусаў пачаўся каля 6 ст. н.э. разам з прыходам на землі сучаснай Беларусі (у першую чаргу на Падняпроўе і Паддзвінне) славянаў. Славянскія каланісты сустрэлі тут даволі рэдкае і нешматлікае балцкае насельніцтва. У выніку ажыўленага і мірнага кантакту з тубыльцамі, праз узаемнае засваенне элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, а таксама мовы, пачалося фармаванне новага этнасу, які сёння называецца беларусамі. У гэтым заключаецца сутнасць агульнапрынятай сёння субстратнай тэорыі этнагенезу беларусаў, распрацаваную маскоўскім археолагам Валянцінам Сядовым яшчэ ў 60-я гады 20 ст.

Паводле Сядова **прычынай пераўтварэння розных дыялектных групаў славянаў** (якія прыйшлі на Беларусь, найперш, у Верхняе

Падняпроўе і Верхняе Паддзвінне з розных бакоў і ў розны час) **у беларускую народнасць з'яўляецца аднародны балцкі субстрат на ўсёй беларускай тэрыторыі.** Пра гэта сведчаць:

– помнікі археалогіі

– захаванне значнага гідранімічнага слою балцкага паходжання

– фармаванне на беларускай тэрыторыі асаблівага антрапалагічнага тыпу.

У выніку славянізацыі мясцовага балцкага насельніцтва пазначылася аддзяленне часткі ўсходнеславянскай народнасці, што садзейнічала станаўленню беларускай мовы і народнасці[1].

Высновы Валянціна Сядова падцверджаныя навейшымі даследаваннямі беларускіх археолагаў: "З трэцяй чвэрці 1 тыс. у балцкім асяроддзі фіксуюцца славянскія культурныя элементы, якія сведчаць аб пачатку інфільтрацыі насельніцтва з тэрыторый, занятых плямёнамі пражскай, калочынскай і пянькоўскай культур (археалагічныя культуры славянаў – *А.К.)*. З 8 – 9 ст. нарастаюць працэсы славянізацыі мясцовага балцкага насельніцтва, што стварае ўмовы для пачаткаў новага этнасу. Менавіта балцкі субстрат стаў тым фактарам, які вызначыў фармаванне беларускага народа."[2].

У развіцці беларускага этнасу можна выдзеліць некалькі важнейшых этапаў:

1. **6 – 12 ст.** – фармаванне традыцыйнай культуры
2. **13 – сярэдзіна 16 ст.** (да Люблінскай вуніі 1569 г.) – "залаты век" беларускай культуры
3. **Другая палова 16 – 19 ст.** – крызіс
4. **Другая палова 19 – першыя дзесяцігоддзі 20 ст.** – адраджэнне

На першым этапе праз працэс балта-славянскіх кантактаў выпрацоўвалася этнічная аснова беларусаў. Названы працэс працягваўся паўтары тысячы гадоў ад 6-7 да сярэдзіны 20 ст. і ахапіў усю тэрыторыю Беларусі разам з прылеглымі раёнамі суседніх краінаў: Украіны, Расеі, Латвіі, Літвы і Польшчы.

Ягонымі адметнасцямі былі значная храналагічная і геаграфічная нераўнамернасць. На Верхнім Падняпроўі і Падзвінні ён у асноўным завяршыўся ў 12 – 13 стст.[3] На новай этнічнай аснове паўсталі першыя дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі Беларусі – Полацкае і Тураўскае княствы.

На Панямонні названы працэс уступіў у фазу актыўнасці ў канцы 10 ст. і працягваўся да сярэдзіны 20 ст. Усюды вынік быў аднолькавы – праз славяна-балцкае ўзаемадзеянне стварацца падставовыя адметныя рысы новага

---

[1] Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. С. 178-186, 192.
[2] Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2. С. 433-434.
[3] Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мінск, 1992. С. 106-107.

этнасу, які сёння носіць назву “беларусы”. Граніцы зоны балта-славянскага кантакту і этнічнага арэалу беларусаў практычна супадаюць.

Паводле геаграфічнага абсягу і храналагічнай працягласці **працэс балта-славянскіх кантактаў з’яўляецца буйнейшай з’явай беларускай гісторыі.** Галоўным вынікам гэтага працэсу стала ўтварэнне беларускага этнасу. Аднак **канчатковы поспех этнагенезу беларусаў аказаўся магчымым дзякуючы супадзенню на пэўным этапе (сярэдзіна 13 ст.) з другім важнейшым чыннікам – дзейнасцю дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ**.

Перыяд 13 – паловы 16 ст. займае асаблівае месца ў гісторыі беларускага народу, бо ў гэты час канчаткова вырашылася справа яго ўтварэння. Менавіта ў гэты час адбылося аб’яднанне некалькіх размешчаных па суседству рэгіёнаў (Верхняга Панямоння, Верхняга Падзвіння, Верхняга Падняпроўя і Палесся) у адзіным палітычным арганізме, што прывяло да злучэння іх у адну этнічную цэласнасць. Менавіта ў гэты час сфармаваліся адметныя этнічныя рысы народу, вызначылася асноўная этнічная тэрыторыя беларусаў, акрэсліліся яе межы, якія больш-меньш трывала захаваліся да навейшага часу.

“Запас трываласці” этнасу, створаны ў часы ВКЛ, аказаўся дастатковым каб перажыць неспрыяльныя стагоддзі (3-ці этап – другая палова 16 – 19 стст.) паланізацыі, пазней яшчэ русіфікацыі, каб нават пасля ліквідацыі дзяржавы, амаль поўнай страты сацыяльнай і культурнай эліты дажыць да навейшага часу. Захаванне асноўных этнічных адметнасцяў, мовы і традыцыйнай масавай культуры ў сялянскім асяроддзі стала падставай для ўздыму адраджэнцкага руху ў навейшы час (4-ты этап - другая палова 19 – першыя дзесяцігоддзі 20 ст.). Момантам нараджэння беларускай нацыі з’яўляецца дзень дэкларацыі нацыянальнай беларускай дзяржавы - БНР 25 сакавіка 1918 г.

## Тэма 2. **Гісторыя Полацкага і Тураўскага княстваў**

2.1. Стэрэатыпы савецка-расейскай гістарыяграфіі:

*Полацкае і Тураўскае княствы былі ўдзельнымі княствамі - часткамі адзінай старажытнарускай дзяржавы – Кіеўскай Русі. Самастойнасць яны набылі ў 12 ст. у выніку працэсу феадальнай раздробленасці. У 13 – 14 стст. Полацкая і Турава-Пінскія землі былі падпарадкаваныя літоўскімі феадаламі і ўвайшлі ў склад ВКЛ.*

2.2. Альтэрнатыўны навуковы погляд.

Полацкае і Тураўскае княствы былі самымі старажытнымі беларускімі дзяржавамі. Яны ўтварыліся на аснове раннесярэднявечных субэтнасаў – саюзаў плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. У сваю чаргу гэтыя

саюзы пляменаў з’яўляюцца вынікам працэсу балта-славянскага ўзаемадзеяння. Вядучы беларускі археолаг Георгі Штыхаў зазначае, што ў пахавальных помніках полацкіх крывічоў – доўгіх курганах (археалагічная культура доўгіх курганаў Паўночнай Беларусі – другая палова 1 тыс. н.э., займала Беларускае Падзвінне і Верхняе Падняпроўе) “пахаваны славянізаваныя балты ці славяне з моцным уплывам матэрыяльнай культуры балтаў”[4].

Племянное княжэнне крывічоў-палачан стала гістарычным ядром Полацкай дзяржавы, у якую ўваходзіла тэрыторыя сучаснай Віцебскай вобласці і паўночная частка Меншчыны. Упершыню ў пісьмовых крыніцах Полацкая валасць упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 862 г. У апошняй трэці 10 ст. на полацкім стале сядзеў незалежны ад Кіева князь Рагвалод. Пасля адносна нядоўгага падпарадкавання кіеўскаму князю ад 11 ст. тут зноў пануе мясцовы княскі род. Улада полацкіх князёў сягала далёка на паўночны захад па ніжняму цячэнню Дзвіны да Рыжскага заліва. Урыўкавыя пісьмовыя звесткі 11 – 12 ст ст. сведчаць, што ў Полацку ўлада князя суіснавала з вечавым ладам. У 12 ст. Полацкая зямля ўступіла ў стадыю феадальнага раздраблення[5].

Гэтаксама Тураўскае княства ўзнікла ў басейне Прыпяці на аснове племяннога саюзу дрыгавічоў. Апошнія таксама былі вынікам ўзаемадзеяння славянскіх каланістаў з прыпяцкімі балтамі. Узмацненню гэтай дзяржавы спрыяла размяшчэнне ейных галоўных гарадскіх цэнтраў (найперш Турава і Пінска) на міжнародным гандлёвым шляху з Кіева ў Польшчу. У адрозненне ад Полацкай дзяржавы, Тураўскае княства ў палітычным сэнсе было цесна звязана з Кіевам. Паводле дзеючага ў Кіеўскай дзяржаве права перадачы спадчыны, тураўскія князі мелі першынство на замяшчэнне вакантнага кіеўскага стала. Таксама як і ў Полацку, лічыцца верагодным, функцыянаванне ў Тураве веча[6].

Да Тураўскага княства напачатку належала Бярэсце, узнікшае таксама на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. Аднак, ужо ў другой палове 12 – 13 ст ст., гэты горад з усім сярэднім Пабужжам і размешчанымі там іншымі гарадамі Падляшша: Кобрынам, Драгічынам, Бельскам, Мельнікам, Камянцом уваходзіў у склад Уладзіміра-Валынскага княства.

Больш познім дзяржаўным утварэннем, у параўнанні з Полацкім і Тураўскім княствам, было княства Смаленскае, узніклае на аснове племяннога саюзу смаленскіх крывічоў, які таксама ўкладаўся ў межах балта-славянскага ўзаемадзеяння. У 9 – 10 стст. смаленскія крывічы знаходзіліся пад уладай

[4] Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск, 1993. С. 230.
[5] Нарысы гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Ч. 1. С. 92-96.
[6] Фроянов И. Киевская Русь. Очерки социально-политической истории. Ленинград, 1980. С. 135, 136.

Кіева і імі кіравалі кіеўскія пасаднікі. Толькі ў сярэдзіне 11 ст. (1054 г.) адбылося ўтварэнне асобнага Смаленскага княства[7].

Месца ўтварэння радзіміцкага саюзу плямёнаў (Пасожжа) таксама ўваходзіць у зону балта-славянскага кантакту. Радзімічам не ўдалося стварыць уласную дзяржаву, іх тэрыторыя была падзеленая паміж Смаленскім і Чарнігаўскім княствамі.

У сярэдзіне 13 – 14 ст. Полацкая і Турава-Пінская землі прынялі актыўны ўдзел у стварэнні ВКЛ і ўвайшлі ў гэтую дзяржаву на правах шырокай аўтаноміі (Полацкая і Віцебская землі), або як асобныя адміністратыўныя часткі – княжэнні –(княствы Турава-Пінскай зямлі).

## Тэма 3. **Вялікае Княства Літоўскае ў гісторыі Беларусі**

3.1. Стэрэатыпы савецка-расейскай гістарыяграфіі:

*Вялікае Княства Літоўскае ўтварылася ў выніку эвалюцыі старажытных плямёнаў літоўцаў ад першабытнаабшчыннага да дзяржаўнага ладу. У канцы 12 – пачатках 13 ст. утварылася раннефеадальная літоўская дзяржава – саюз ці канфедэрацыя літоўскіх плямёнаў. Шляхам заваёвы, праз дынастычныя шлюбы і інш. спосабамі гэтая дзяржава далучыла да сябе вялізныя тэрыторыі Старажытнай Русі, скарыстаўшы палітычную раздробленасць і аслабленне апошняй у выніку мангола-татарскага нашэсця. Некаторыя рускія землі далучыліся да ВКЛ, каб пазбегнуць разгрому і спусташэння з боку мангола-татараў.*

*Хоць ў ВКЛ дамінавала руская культура, рускае, праваслаўнае насельніцтва падвяргалася эканамічнаму і нацыянальнаму прыгнёту і ўвесь час імкнулася далучыцца да цэнтралізаванай Рускай дзяржавы.*

*Хоць палітычна беларускі народ быў аддзелены ад расейскага, духоўныя сувязі між брацкімі народамі ніколі не перарываліся. У 17 ст., пад час паўстання Багдана Хмяльніцкага на Беларусі, разгарнулася збройная барацьба за ўз'яднанне з Расеяй.*

*У 18 ст., у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, беларусы канчаткова злучыліся з рускімі, што было актам вышэйшай гістарычнай справядлівасці.*

3.2 Канцэпцыя Міколы Ермаловіча:

У канцы 80-х гадоў 20 ст. з уласнай канцэпцыяй утварэння ВКЛ і ацэнкай ролі гэтай дзяржавы ў гісторыі Беларусі выступіў гісторык-аматар Мікола Ермаловіч. Ягоная канцэпцыя генезы ВКЛ на першы погляд выдаецца кардынальна процілеглай афіцыйнай савецкай, паколькі гэты даследнік адмаўляў заваёву літоўцамі беларусаў.

Паводле Ермаловіча, наадварот, беларусы заваявалі старажытную Літву. Апошняя ўяўляла сабой востраў балцкага насельніцтва ў беларускім абшары,

[7] Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. Москва, 1980. С. 195.

размешчаны паміж Наваградкам, Слонімам, Менскам і Маладзечнам. Літоўскі князь Міндоўг, пацярпеўшы паразу на сваёй радзіме ў міжусобнай барацьбе, вымушаны быў уцякаць у Наваградак. Там яго прынялі на службу, далі грошы і войска і Міндоўг завяяваў для Наваградку сваю радзіму – Літву. Заваёва тая стала пачаткам ВКЛ[8].

Такім чынам, гэта дзяржава ад пачатку была беларускай. Апошнюю сваю кнігу Мікола Іванавіч так і назваў "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае[9].

3.2. Сучасныя навуковыя ацэнкі ролі ВКЛ у беларускай гісторыі:

У прафесійным асяродку беларускіх гісторыкаў склаліся крытычныя адносіны як да расейска-савецкай канцэпцыі генезы ВКЛ так і да версіі Міколы Ермаловіча. Нягледзячы на знешнее ўражаньне процілегласці, гэтыя дзьве рэканструкцыі вельмі блізкія між сабой. Яны падобныя адносна месца і часу ўтварэння дзяржавы (Верхняе і Сярэдняе Панямонне, сярэдзіна 13 ст.), адносна асобы пачынальніка дзяржавы (князь Міндоўг; праўда, Ермаловіч сцвярджае ягонае полацкае, а не літоўскае паходжанне). Абедзьве канцэпцыі згаджаюцца наконт канфліктнага шляху стварэння дзяржавы. Толькі ў Ермаловіча знак "-" заменены на "+", маўляў, не літоўцы заваявалі беларусаў, а зусім наадварот, беларускі горад Наваградак захапіў гістарычную Літву.

Сярод гісторыкаў і археолагаў найбольш крытыкуецца лакалізацыя Ермаловічам старажытнай Літвы, якая прызнана адвольнай і неадпаведнай рэальнасці. У межах Літвы Ермаловіча ў 12 – 13 стст. не існавала ніводнага значнага населенага пункта – горада ці буйнога замка. Значная частка гэтай тэрыторыі была забалочанай. Некаторыя звесткі з Галіцка-Валынскага летапісу напрамую супярэчаць высновам Ермаловіча[10].

Паводле найноўшых даследаванняў, ВКЛ ўтварылася ў Верхнім Панямонні ў зоне са змешаным балта-славянскім насельніцтвам. Гэтая тэрыторыя стала ядром, цэнтральнай вобласцю ВКЛ. Яна складалася з Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны і называлася Літвой.

Пачаткам ВКЛ стаў саюз паміж беларускім горадам Наваградкам і адным з мацнейшых балцкіх кунігасаў (князёў) Міндоўгам. Непасрэднай прычынай утварэння дзяржавы была знешняя пагроза для земляў Панямоння з боку мангола-татараў і Тэўтонскага ордэна.

Такім чынам, ВКЛ ад пачатку было двуэтнічным балта-беларускім дзяржаўным утварэннем з перавагай беларускага элементу. Беларусы пры-

---

[8] Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1989; выданне другое, дапоўненае: Мінск, 1991; выданне трэцяе: Мінск 2000.

[9] Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мінск, 2000.

[10] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Жэшаў, 2000. С. 120-121.

нясл і ў гэтую дзяржаву вопыт дзяржаўнай арганізацыі, сістэму права і дзяржаўную мову, балты – кіруючую дынастыю[11].

У ВКЛ завяршылася фармаванне беларускага народу. Паколькі беларуская культура ў гэтай дзяржаве ад 13 да 17 ст. ахоплівала ўсе слаі насельніцтва ад сялянаў да магнатаў і вялікіх князёў, той час названы “залатым векам” Беларусі. Дзейнасць дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ, дзяржаўны статус беларускай мовы забяспечылі паспяховае развіццё беларускай культуры. Не выпадкова дзяржаўныя межы ВКЛ дакладна супадаюць з граніцамі этнічнага арэалу беларусаў.

Ад Люблінскай вуніі 1569 г. пачынаецца дабраахвотная паланізацыя сацыяльнай і інтэлектуальнай эліты ВКЛ - шляхты і мяшчанаў (шляхта цягнулася да польскай культуры, бо імкнулася атрымаць такія ж самыя правы і прывілеі, як шляхта польская), што выклікала працяглы крызіс у развіцці беларускага народу. Захавальнікам беларускіх культурных традыцый стала ў асноўным сялянства – самая шматлікая катэгорыя насельніцтва краіны.

## Тэма 4. **Уключэнне Беларусі ў склад Расейскай імперыі**

4.1. Стэрэатыпы расейска-савецкай гістарыяграфіі:

*Уключэнне Беларусі ў склад Расейскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 г.) было выбітнай падзеяй у гісторыі краіны. Завяршылася шматвекавая барацьба беларускага народу за уз’яднанне з брацкім рускім народам. Працоўныя Беларусі разам са сваімі братамі-рускімі пачалі змагацца за сацыяльнае вызваленне, што ўдалося ажыццявіць 25 кастрычніка 1917 г. у выніку Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі.*

*Уз’яднанне з Расеяй спрыяла эканамічнаму развіццю беларускіх земляў, якія цяпер былі далучаныя да агульнарасейскага рынку. Аднак да Кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь заставалася адсталай ускраінай царскай Расеі.*

*Як вынік вяртання Беларуссю незалежнасці ў пачатку 90-х гадоў 20 ст. у гэтай канцэпцыі адбыліся пэўныя змены. Нават у працах афіцыёзных беларускіх гісторыкаў часоў Лукашэнкі, звяртаецца ўвага на палітыку царскага ўраду, скіраваную на русіфікацыю і дыскрымінацыю беларускай культуры.*

4.2. Найноўшыя навуковыя погляды:

Уключэнне Беларусі ў склад Расейскай імперыі было актам агрэсіі з боку варожай дзяржавы. Праблемы беларусаў у складзе Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, такія, як паланізацыя шляхты і мяшчанства, страта беларускай культурай дамінуючай ролі ў ВКЛ, з’яўляліся нашай унутранай справай, якая толькі пагоршылася расейскім умяшальніцтвам.

[11] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Жэшаў, 2000.

У Расейскай імперыі на працэс паланізацыі беларускай сацыяльнай эліты наклалася татальная русіфікацыя, арганізаваная і фінансаваная царскім урадам. Беларуская мова была забароненая, таксама як і сама назва "Беларусь". Краіну ў афіцыйных дакументах называлі "Северо-Западным краем". Беларусы не прызнаваліся самастойным народам, а толькі "частью русского племени".

Уваход беларускіх земляў у агульнарасейскі рынак азначаў адлучэнне ад рынку еўрапейскага, які быў намнога больш развіты, чым расейскі. (тут можна правесці прамую аналогію з сённяшнім днём).

Беларусь не была адсталай ускраінай Расеі. Агульны ўзровень беларускай эканомікі быў вышэйшы, чым сярэдні ўзровень эканомікі расейскай[12]. Бурнае развіццё расейскай прамысловасці ў апошняе дзесяцігоддзе 19 – пачатку 20 ст. датычыла толькі некалькіх невялікіх рэгіёнаў і не мела значнага ўплыву на агульны стан гаспадаркі імперыі.

Сённяшнія праблемы беларускай дзяржаўнасці і эканомікі, русіфікацыя беларусаў, прыніжэнне беларускай мовы і культуры належаць да прамой спадчыны расейскага гаспадарання на беларускіх землях.

## Тэма 5. **Беларуская Народная Рэспубліка і БССР**

5.1. Стэрэатыпы расейска-савецкай гістарыяграфіі:

*Беларускія буржуазныя нацыяналісты спрабавалі праз утварэнне капіталістычнай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі, адарваць беларускі народ ад рускага, перашкодзіць развіццю сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі. Абвяшчэнне БНР адбылося пры падтрымцы нямецкіх акупантаў.*

*Беларускі народ не прыняў і не падтрымаў БНР. Гэтая дзяржава нікім не была прызнаная і, па сутнасці, з'яўлялася не больш, чым дэкларацыяй.*

*Першай у гісторыі Беларусі нацыянальнай дзяржавай, падтрыманай шырокімі працоўнымі масамі, стала Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якая выступіла як адзін з заснавальнікаў СССР.*

5.2. Навуковая ацэнка БНР і БССР у беларускай гісторыі:

БНР – нацыянальная беларуская дзяржава навейшага часу. Яна стала вынікам развіцця беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Пад канец 1-й сусветовай вайны многія народы Еўропы, якія былі ў складзе розных імперыяў (чэхі і славакі, палякі, літоўцы, латышы, эстонцы, украінцы, беларусы) абвясцілі незалежнасць сваіх краінаў. Удалося адстаяць свае незалежныя дзяржавы чэхам і славакам, палякам, літоўцам, латышам, эстонцам і не ўдалося украінцам і беларусам. Украіна і Беларусь былі падзеленыя паміж Расеяй і Польшчай.

[12] Кіштымаў А. Эканамічныя падставы беларускай дзяржаўнасці на пачатку 20 ст. // Гістарычны Альманах, Гародня, 2000. С. 16-48.

Абвяшчэнне БНР 25 сакавіка 1918 г. стала актам нараджэння беларускай нацыі. За гэтую дзяржаву супраць бальшавікоў на розных франтах ваявалі сотні тысяч беларусаў, сярод якіх было 10 тыс. дабраахвотнікаў[13].

Перад пагрозай страты Беларусі расейскія бальшавікі пайшлі на абвяшчэнне ў Смаленску 1 студзеня 1919 г. БССР, псеўдадзяржавы, якая не мела ніякай самастойнасці. Пра апошняе сведчыць неаднаразовае перакройванне яе тэрыторыі паводле рашэнняў Масквы без усякага нават фармальнага ўзгаднення з уладамі БССР.

Кароткі перыяд росквіту беларускай культуры ў БССР у 20-я гады, выкліканы таксама рашэннямі, прынятымі ў Маскве, закончыўся фізічным вынішчэннем больш чым 100 тыс. маладой беларускай інтэлігенцыі. Менавіта ў БССР адбылася татальная русіфікацыя беларусаў, ліквідацыя беларускай асветы, прыніжэнне статусу беларускай мовы і культуры. Аднак сам факт існавання гэтай псеўдадзяржавы стаў падставай для абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 г.

Адсутнасць вопыту ўласнага дзяржаўнага жыцця ў міжваенны час (у адрозненне ад Польшчы і прыбалтыйскіх рэспублік) з'яўляецца непасрэднай прычынай сённяшняй няпэўнасці і крызіснага стану беларускай дзяржаўнасці.

Вынішчэнне інтэлігенцыі ў сталінскія часы стала прычынай слабасці сённяшняй беларускай нацыянальнай эліты. Русіфікацыя і аслабленне нацыянальнай ідэі прычыніліся да няўдачы ў рэфармаванні эканомікі. У суседніх краінах менавіта палітыкі, прыйшоўшыя да ўлады пад лозунгамі незалежнасці, здолелі правесці рэфармаванне эканомікі ад сацыялістычнай да рынковай.

## Тэма 6. **Другая сусветная вайна на Беларусі**

6.1. Стэрэатыпы расейска-савецкай гістарыяграфіі:

*У час Вялікай Айчыннай вайны на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі разгарнулася масавая партызанская барацьба беларускага народу супраць захопнікаў, якая без перапынку цягнулася да самага вызвалення ў 1944 г.*

*Беларускія нацыяналісты супрацоўнічалі з акупантамі, працавалі ў паліцыі і акупацыйнай адміністрацыі. Пасля заканчэння вайны тыя з іх, хто не трапіў у рукі правасуддзя, уцяклі на Захад і там працягвалі падрыўную працу супраць савецкай улады.*

6.2. Найноўшыя навуковыя ацэнкі другой сусветнай вайны на Беларусі:

Другая сусветная вайна для беларусаў не была ніякай айчыннай. "Беларусь знаходзілася ў зоне шырокага фронту змагання паміж двума таталіта-

[13] Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923. Białystok 1995. s. 233.

рызмамі, якія не зважалі на людскія кошты, і таму такімі вялікімі аказаліся памеры трагедыі пражываючага на гэтай тэрыторыі народа”[14].

Савецкія партызаны часта захоўваліся як бандыты, таксама як і нямецкія карнікі палілі вёскі і забівалі мірных жыхароў, вынішчалі беларускую інтэлігенцыю, напрыклад, настаўнікаў і святароў.

Беларускія нацыяналісты ў цяжкіх ваенных умовах стараліся арганізоўваць элементарнае забяспячэнне надзённых людскіх патрэбаў, стваралі беларускае школьніцтва, праводзілі культурніцкую беларускую працу. Часта праследаваліся як немцамі, так і партызанамі.

## ЛІТАРАТУРА:


Алексеев Л.В. Смоленская земля в 9 – 13 вв. Москва, 1980.

Археалогія Беларусі. Мінск, 1999. Т. 2.

Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск, 1993.

Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мінск, 2000

Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1989; выданне другое, дапоўненае: Мінск, 1991; выданне трэцяе: Мінск 2000.

Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Жэшаў, 2000.

Кіштымаў А. Эканамічныя падставы беларускай дзяржаўнасці на пачатку 20 ст. // Гістарычны Альманах, Гародня, 2000. С. 16-48.

Мірановіч Я. Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток, 1999.

Нарысы гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Ч. 1. С. 92-96.

Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970.

Фроянов И. Киевская Русь. Очерки социально-политической истории. Ленинград, 1980.

Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мінск 1992.


[14] Мірановіч Я. Навейшая гісторыя Беларусі. Беласток, 1999. С. 165.

# Змест